

# ШЛЯХ

БЮЛЕТЭНЬ БЕРАСЬЦЕЙСКІХ РЭГІЯНАЛЬНЫХ РАД БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

2·1989

ВЕРАСЕНЬ

ВЫДАЕЦЦА З САКАВІКА 1989 ГОДА

## АД РЭДАКЦЫІ

Шаноўныя чытачы!

Паўгода назад Вы атрымалі першы нумар "Шляху". Гэты тэрмін увабраў мноства важных падзей. Успомнім: Вясновыя выбары народных дэпутатаў СССР. Яны нарадзілі надзею і... прынесьлі расчараваньне. Менавіта на берасьцейшчыне змагаўся сам з сабою і атрымаў перамогу ў якасьці кіраўніка міфічнай дэпутацкай дэлегацыі БССР Я.Сакалоў. Каго ён перамог, дадумайце самі.

Сорамна было назіраць на І зьездзе Саветаў за нашым "кіраўніком" і за большасьцю гэтай дэлегацыі! Але ж мы маем тое, што заслужылі сваёй пасіўнасьцю і няверам у свае сілы.

Шалёную хвалю дэзінфармацыі выліла БЕЛТА на старонкі газет, імкнучыся брудным патокам маны і паклёпу ачарніць БНФ "Адраджэньне". БЕЛТА ўзначаліла гэтае паляваньне на новых "ворагаў народу", кіруемае Я.Аляксейчыкам — былым выхаванцам і памочнікам Я.Сакалова. А які настаўнік, такі і вучань!

Але жыве БНФ! Устаноўчы зьезд у Вільні даў жыцьцё гэтай грамадска-палітычнай арганізацыі. Расьце цікавасьць да БНФ і яго праграмы. Прыклад — агульнагарадская сустрэча ў Берасьці 14 жніўня з удзельнікамі І зьезда БНФ. "Дэмагогія" — так ацаніў яе першы сакратар гаркама КПБ. Час рассудзіць, але сапраўднай дэмагогіяй і нежаданьнем дапусьціць перабудову вызначаюцца праекты Законаў аб выбарах у Саветы БССР, падораныя нам апаратам. Калі ж ня пройдуць "выбары на пленумах і зьездах", то ці не давядзецца нам ізноў аддаць галасы за адзінага шаноўнага т.Сакалова ці яго вернага "соратника", служку і паплечніка т.Аляксейчыка, або іншых "прарабаў" беларускай Вандэі?

Мы пазбаўлены магчымасьці выказаць свае думкі ў афіцыйным друку, таму рэгіянальныя Рады БНФ вырашылі зрабіць выданьне бюлетэня "Шлях" рэгулярным. Мы зьвяртаемся да Вас, дарагія сябры, браты і сёстры. Наш "Шлях" будзе дзейсным толькі тады, калі будуць гучаць у ім Вашы неабыякавыя галасы. Пішыце, што турбуе і непакоіць Вас, з чым Вы нязгодныя і што хацелі б зьмяніць у жыцьці рэгіёна і рэспублікі і як.

З БОГАМ, У ДОБРЫ ЧАС! ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

## ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

ПЕРВОМУ СЕКРЕТАРЮ БРЕСТСКОГО ГОРОДСКОГО КОМИТЕТА КОММУНИСТИЧЕСКОЙ ПАРТИИ БЕЛОРУССИИ

Уважаемый товарищ Лашков!

С большим вниманием ознакомился я с газетным материалом о состоявшемся в конце августа пленуме горкома партии, на котором Вы сделали содержательный доклад, и хочу по этому поводу высказать свою точку зрения. Сразу оговорюсь: с Вашей она не во всем совпадает.

Я согласен с Вами в том, что существует, как Вы сказали, "реальная угроза ослабления лидирующей роли партии", как и в том, что снижается авторитет ее руководящих органов "в центре и на местах". По-моему, все-таки больше на местах. Увеличивается число выбывающих из партии, уменьшается число вступающих в нее. Впрочем, я беспартийный, по профессии рабочий, и меня, в общем-то, проблемы городской парторганизации, как Вас, не волнуют. Причины же этого, неприятного для Вас явления, мне видятся несколько иначе, чем Вам. А теперь о том, что заставило меня взяться за перо.

В своем докладе Вы подвергли резкой критике "так называемый" Белорусский народный фронт. Критику эту я считаю необъективной, несправедливой и предвзятой. Обвиняя лидеров этого общественного движения в субъективизме, бестактности и "нарочитом искажении фактов", Вы сетуете на то, что при встрече, как Вы говорите, с их стороны "не прозвучало... ни одного конструктивного предложения по улучшению дел на различных участках общественной жизни", а присутствующие на встрече "в той или иной форме поддерживали демагогические заявления".

Если "демагогическими заявлениями" считать программу БНФ, его статут, основные документы Учредительного съезда, о которых, в основном, и шел разговор на встрече, то Вы, тов.Лашков, правы: подавляющее большинство присутствующих /более 300 человек/ поддержали эти документы и приняли резолюцию-обращение в Президиум Верховного Совета БССР с просьбой зарегистрировать БНФ "Адраджэньне". Как Вы говорите — "к сожалению". Что же касается конструктивных предложений, то само восприятие их — конструктивные или деструктивные — зависит от занимаемой человеком политической линии.

Продолжение на стр.3

## ХРОНІКА

Б е р а с ь ц е, 26 КРАСАВІКА. Паколькі гарвыканкам забараніў правядзеньне мітынгу ў гэты жалобны дзень трохгоддзя Чарнобыльскай трагедыі /матыў: "В Бресте экологическая обстановка хорошая, все прекрасно."/ групы падтрымкі БНФ правялі масавы збор подпісаў пад зваротам у Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР зь пералікам неадкладных захадаў да ўратаваньня людзей, якія вымушаны існаваць у радыяцыйнай зоне. Яго падпісала каля пяці тысяч берасьцейцаў.

В і л ь н я, 24 - 25 ЧЭРВЕНЯ. Устаноўчы зьезд афіцыйна аформіў стварэньне БНФ за перабудову "Адраджэньне" — грамадска-палітычны рух, які ставіць сваёю мэтай пераўтварэньне грамадства і аднаўленьне самабытнасьці беларускай нацыі на прынцыпах дэмакратыі і гуманізму, стварэньне умоў свабоднага, паўнакроўнага разьвіцьця культуры як карэннага насельніцтва, так і нацыянальных меншасьцяў Беларусі. БНФ закліканы абараняць інтарэсы працоўных, будзіць людзей да сацыяльнай актыўнасьці, разьвіваць іх палітычную, прававую культуру і нацыянальную сьвядомасьць, забясьпечыць незваротнасьць перабудовы ў БССР. БНФ будзе дзейнічаць у рамках Канстытуцыі БССР і ў адпаведнасьці з прынятымі зьездам Прагра-

Працяг на стр.2

